Грипп настигает молниеносно стр.4
Ящик пива за правильный ответ стр.7
Уточненное расписание стр.8




# Газета Слонімская

Газета заснавана ў 1938 годзе. Аднойлена ў 1997 годзе.

№ 4 (137). 20 — 26 студзеня 2000г. НЕЗАЛЕЖНЫ ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ШТОТЫДНЁВІК Кошт 60 руб.




## КАШЧУНСТВА

**На днях у рэдакцыю "ГС" пазваніла сланімчанка Валянціна Мікалаеўна Філіпава. З болем у голасе яна расказала жудасную гісторыю, якую інакш як кашчунствам не назавеш.**

– Гадоў пятнаццаць назад, – сказала Валяціна Мікалаеўна, – мы з мужам пасадзілі на магіле сына, якая знаходзіцца на могілках, што на вуліцы Чырвоных партызан, дзве дэкаратыўныя блакітныя елачкі. За гэтыя гады ялінкі выраслі і яшчэ здалёк клікалі нас да сынавай магілы. Але прыгажосць адной з елачак закончылася ў снежні 1998 года, калі невядомы вандал яе спілаваў. Нядаўна я зноў пабывала на магіле сына і была моцна шакіравана, калі не ўбачыла і другой елкі. Яе нехта спілаваў перад самым Новым годам. Цяпер на магіле сына тырчаць толькі два пні,"– уздыхнула ў трубку Валянціна Мікалаеўна.

Выслухаўшы жанчыну, я быў не менш здзіўлены, чым яна. Гэта ж да чаго мы дажылі – у нябожчыкаў забіраем апошняе. Мне нават страшна ўявіць, што такія елкі, упрыгожаныя цацкамі і гірляндамі, стаялі ў некага дома. І хтосьці радаваўся, што "гаспадар" такую прыгажосць прынёс дамоў...

Атрымліваецца, што ў адных людзей сёння гора, а другія цешацца з іх. Вандалізм, як бачым, не мае межаў...

Дзесьці прачытаў такі выраз: "Вы думаеце, я плачу па тых, хто памёр? Не, я плачу па тых, каму яшчэ доўга жыць..."

**Сяргей ЧЫГРЫН**

## ПЕТАРДА ПАКАЛЕЧЫЛА ХЛОПЦА

**Падчас святочнага феерверку вучань СШ №4 14-гадовы Андрэй Б. запаліў петарду, якая нечакана ўзарвалася ў яго руках.**

Выбухам былі адарваны ўсе пальцы правай рукі. Здарылася гэта днём 1 студзеня.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

полемика

## КОГДА ЦЕЛЬ ОПРАВДЫВАЕТ СРЕДСТВА

**Накануне Нового года в "Слонімскім весніку" (от 22.12 и 28.12.1999г.) была напечатана статья "Патриотический провинциализм". Автор, минчанка Ирина Масленицына, на примере дискуссии по поводу возведения в Слониме памятника Льву Сапеге рассуждает об отношении к историческому прошлому своего народа и о том, почему не возрождается культурное наследие Беларуси.**

Но было в вышеназванной статье, к сожалению, и иное...



### Провинциалы и провинциалисты

В самом начале статьи И.Масленицына разделила слонимчан на провинциалов и провинциалистов. К первым она обиды не таит. А вот слово "провинциализм", – пишет И.Масленицына, – имеет крайне негативный смысл. Мы употребляем его, когда речь идёт о недальновидности, неумении мыслить масштабно, отсутствии интуиции и интеллигентности. Впервые я поняла, что столкнулась с провинциализмом, когда узнала, что в Слониме... много дискутируют по поводу возвдвижения памятника Льву Сапеге".

Дальше – больше. Так, например, И.Масленицына определила наш город времён Льва Сапеги как "заштатный городишко". Думаю, в данном случае не важно, был ли тогда Слоним действительно заштатным городом. То есть городом, не имеющим административного значения. Разговор о другом. По словам самой И.Масленицыной, она провела в Слониме детство и самую раннюю юность. Я всего лишь семь лет живу в Слониме и, естественно, не претендую на какой-то особый патриотизм. Но, уважаемая Ирина Александровна, вот этот даже "городишко" я люблю. И ещё. Вы, как и кто-либо другой, можете как угодно относится к инициативе группы горожан поставить в Слониме памятник Льву Сапеге. Но ёрничать по этому поводу, мол "разговор... по иронии судьбы завели слонимчане", а тем более называть это "высшим проявлением цинизма" – непозволительно никому.

### Двуликий Сапега

Досталось от И.Масленицыной и самому Л.Сапеге и Слониму нынешнему. Как она пишет, Сапега "не пытался особенно обустраивать и улучшать" Слоним, который был ему "несколько безразличен, и потому курьёзно звучит придуманный Слониму провинциальному звучный эпитет "город Льва Сапеги".



Совсем другими красками рисуется Лев Сапега за пределами Слонима: выдающийся сын своего времени; блестящий политик; прогрессивный; неординарный... И уже не цинично, а, считает И.Масленицына, будет "логично и закономерно" увековечить легендарного канцлера в граните или бронзе: "Уместен был бы монумент где-нибудь в центре нашей столицы, Минске... Конечно, памятник канцлеру так и представляется на родине героя, на Витебщине, в Бешенковичском районе или в Бресте, или в Могилёве, которые столь многому обязаны Льву Сапеге".

Впрочем, следуя за автором "Патриотического провинциализма", вернёмся опять в Слоним.

### Страшное дело

Аж одну треть своей статьи И.Масленицына посвятила рассказу о "страшном деле", которое "донельзя порочит репутацию канцлера великого литовского как осиянного героя". В кратком пересказе суть дела выглядит так. Лев Сапега обвинил врачевательницу, честную и добрую женщину, жену священника Раину в ведовстве (то есть, что она ведьма). Новогрудский суд оправдал Раину. Л.Сапега не смирился с победой, одержанной над ним простой мещанкой. По его настоянию Раину из рук судей новогрудских передают в руки судей слонимских, зависимых в своих решениях от воли старосты Льва, и, уже по иному обвинению – чернокнижие – осуждают на смерть. 17 декабря 1631 года мужественная женщина была сожжена на окраине Слонима, выкрикнув в последние свои минуты проклятие роду Сапегов.

Эту длинную и якобы донельзя порочащую Сапегу историю И.Масленицына рассказала для того, чтобы заявить буквально следующее: "Конечно, было бы высшим проявлением цинизма, если бы потомки несчастной жертвы (Раины - **М.В.**) решились украсить главную площадь своего города возведённым на постамент её погубителем (Сапегой - **М.В.**). Гораздо уместнее было бы поставить памятник самой Раине...". Что ж. И такая точка зрения имеет право на жизнь и может стать предметом для обсуждения. Удивляет, вызывает непонимание и протест другое – историческая непоследовательность, а также бестактность нашей землячки в отношении к нам и к нашему городу.

**(Продолжение на стр.2)**

ЗДАРЭННІ

### Салярка нарабіла бяды

**Падчас падпальвання печы 69-гадовая жыхарка вёскі Караліно Зэльвенскага раёна Вольга Ган лінула на дровы салярку.**

Успыхнуўшае полымя ахапіла кухню, а пасля і ўвесь дом. Згарэла мэбля, дах, моцна абгарэлі сцены. А сама гаспадыня з цяжкімі апёкамі была дастаўлена ў бальніцу, дзе праз два дні памерла.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

### Злодзей з Добрага Бору

**Днямі супрацоўнікамі слонімскага аддзялення крымінальнага вышуку затрыманы злодзей, які ў снежні мінулага года абрабаваў магазін вёскі Савічы Слонімскага раёна.**

Ім аказаўся 30-гадовы непрацуючы і раней судзімы за крадзёж С., жыхар вёскі Добры Бор Баранавіцкага раёна. Узбуджана крымінальная справа, вядзецца следства.

### Рабаўнікі затрыманы

**Вечарам, 13 студзеня, на вуліцы К. Маркса былі абрабаваны дзве сланімчанкі. Сумкі з рэчамі і грашыма ў іх вырвалі двое невядомых.**

Супрацоўнікі крымінальнага вышуку спрацавалі аператыўна. Яны затрымалі 18-гадовага Сяргея Г. і слесара камунальнай гаспадаркі 24-гадовага Сяргея С., якія падазраюцца ў злачынстве.

### Падвялі правады

**У мінулыя выхадныя ад замыкання электраправодкі загарэўся дом жыхара вёскі Ламашы Слонімскага раёна Уладзіміра Ягаўдзіка.**

Агнём знішчана страха і два пакоі дома. Гаспадару, інваліду 2-й групы, пашчасціла выратавацца з агню.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

урачыстасць

## ВЯЧАСЛАЎ БАРКОЎСКІ "ПРЫВЁЗ" У СЛОНІМ ТРАКТАР

**Слонімшчына адзначыла 60-гадовы юбілей з дня ўтварэння Слонімскага раёна.**

Урачысты сход, які з гэтай нагоды адбыўся ў РДК 15 студзеня, адкрыў старшыня райвыканкама Станіслаў Здановіч. На працягу гадзіны ён расказваў пра гісторыю станаўлення і развіцця раёна.



Фота Віталя ГІЛЯ

*Дзяўчынкі — удзельніцы ўрачыстасці*

Павіншаваць сваіх землякоў прыехаў намеснік старшыні Гродзенскага аблвыканкама Вячаслаў Баркоўскі, які разам з віншавальным адрасам прывёз і пашпарт на новы трактар МТЗ-80, якім раён узнагароджаны за высокія паказчыкі ў вытворчасці сельгаспрадукцыі.

Павіншавалі слонімцаў былы сакратар Слонімскага гаркама кампартыі Эдуард Наготка, былы міністр абароны генерал-палкоўнік Пётр Чаус, былы камандзір слонімскай механізаванай брыгады генерал Анатоль Нікіцін і іншыя начальнікі, якія некалі кіравалі ў Слоніме.

Граматамі і лістамі з падзякамі аблвыканкама былі ўзнагароджаны старшыні калгасаў Антон Дабрэнка, Казімір Харужы, Мікалай Жыткевіч, дырэктар саўгаса Аркадзь Калянкевіч і іншыя кіраўнікі.

Каштоўныя падарункі атрымалі многія былыя старшыні калгасаў, сельсаветаў і прадпрыемстваў. А вось з ліку простых працаўнікоў ніхто не быў адзначаны нават невялічкай прэміяй. Здавалася, што ў зале сустрэліся чыноўнікі розных рангаў і ўзростаў, каб павіншаваць і ўзнагародзіць адзін аднаго.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

# ЧЫНОЎНІКІ ЗГУЛЯЛІ Ў ЮБІЛЕЙ

**У Мастах, як і ва ўсіх райцэнтрах Заходняй Беларусі, у мінулую суботу, 15 студзеня, адсвяткавалі 60-годдзе ўтварэння раёна.**

Яшчэ два месяцы таму назад ніхто з чыноўнікаў і не ведаў, што трэба будзе святкаваць такую знамянальную дату. Аднак, па загаду зверху, была створана камісія па правядзенню святочных мерапрыемстваў. Яна і распрацавала неабходны план. Пад яго былі выдзелены сродкі. За некалькі дзён да прызначанай даты пачалі ўпрыгожваць раённы дом культуры. З усёй Мастоўшчыны пазвозілі ад народных майстроў дываны, ручнікі і посцілкі. У фае паставілі папяровую пачвару, у якой, калі пастарацца, можна было пазнаць дракона. На высунутым языку напісалі віншаванне з Новым годам. Развесілі старыя чырвоныя сцягі за дасягненні ў розных галінах гаспадаркі, расставілі дыпломы і граматы. Прывезлі некалькі буфетаў. На ўваходзе паставілі ганаровую варту з членаў БПСМ з чырвонымі павязкамі. Культурная праграма была разнастайнай. Ігралі два духавыя аркестры. Нягледзечы на тое, што планавалася правесці ўсенароднае свята, у Дом культуры пускалі толькі па прапусках. Таму ў зале прысутнічалі, у асноўным, чыноўніцкі люд, ветэраны, кіраўнікі савецкай і партыйнай раённых улад розных гадоў, за выключэннем хіба што перадапошняга партыйнага важака раёна Паўла Фокіна, які пасля таго як пайшоў на пенсію, з'ехаў на пастаяннае месца жыхарства ў Нямеччыну. Самыя важныя госці заходзілі ў кабінет да дырэктара ДК, дзе для іх быў накрыты стол.

Паўдзельнічаць у свяце прыехалі прадстаўнікі ўлады са сталіцы і вобласці. Былі прамовы, гучалі канцэртныя нумары і прайшло ўзнагароджанне лепшых людзей раёна механічнымі гадзіннікамі з надпісам "60 лет Мостовскому району". Свята доўжылася тры з паловаю гадзіны. Па яго заканчэнні лепшых з лепшых паклікалі на банкет. Карацей, гэтае свята зрабілі не для народа, а для чыноўнікаў.

**Язэп ПАЛУБЯТКА**

# З'ЕЗД ВЕТЭРАНАЎ

**16 студзеня ў Гродне прайшоў з'езд ветэранаў беларускага нацыянальнага руху 1940-50-х гадоў.**

З усёй Беларусі прыехалі на гэтае мерапрыемства былыя сябры Саюзу беларускай моладзі, Саюзу беларускіх патрыётаў, жаўнеры Беларускай краёвай абароны, удзельнікі пасляваеннага антысавецкага падполля. Гэтыя людзі, многія з якіх прайшлі сталінскія канцлагеры, распавядалі пра свае жыццёвыя шляхі, пра ідэалы, за якія яны змагаліся, ахвяруючы сваёй маладосцю. Былая сланімчанка, сяброўка СБМ Надзея Дземідовіч расказвала пра тое, як яе, зусім маладую дзяўчыну, у 1949 годзе ў баранавіцкай турме чэкісты катавалі электрычным токам... Яна расказвала пра паўстанне ў канцлагеры, на чале якога былі беларусы-палітзняволеныя, і пра яго жорсткае падаўленне ўнутранымі войскамі з дапамогай танкаў.

Перад ветэранамі нацыянальнага руху і шматлікай моладдзю выступаў хор "Бацькаўшчына", бард Андрэй Мельнікаў ды іншыя выканаўцы. Плануецца, што такія з'езды стануць рэгулярнымі.

**Сяргей ЁРШ**

# КОГДА ЦЕЛЬ ОПРАВДЫВАЕТ СРЕДСТВА

**(Начало на стр.1)**

### Во имя цели

Причины такой противоречивости и несдержанности в высказываниях кроются, пожалуй, в следующем: "Вздумалось некоторым слонимчанам заявить, что каменный Лев Сапега может и должен быть только на том месте, где сейчас стоит памятник Ленину", — пишет она. И в заключительной части своей статьи И.Масленицына обосновывает, почему в Слониме ни памятник Сапеге, ни памятник Огинскому "не должен занимать место вождя мирового пролетариата". Основной аргумент при этом такой, что историю переписать наново нельзя и пусть больше ни один памятник не будет низвергнут. Идеей сохранения памятников эпохи большевизма пронизана вся статья. Действительно, проблема существует. И об этом можно и нужно говорить, полемизировать. Но, повторюсь, не это заставило меня взяться за перо. Защищайте, Ирина Александровна, Ленина, но не путём уничижения Льва Сапеги, нашего города и тех, кто думает не так, как Вы. Нельзя, даже ради уважения "дедов и отцов наших, поверивших в их (Ленина и его соратников - большевиков) идеи и пошедших за ними строить "наш, новый мир", где никто становиться всем", — произвольно обращаться с историческими фактами и оскорблять людей.

Для достижения благородной цели не все средства хороши.

### Будет ли в Слониме памятник Льву Сапеге?

Напомним, что в 1998 году группа горожан во главе с Татьяной Коженковой выступила с инициативой установить в Слониме памятник Льву Сапеге. Идею поддержали общественное объединение "Фонд імя Льва Сапегі" и власти Слонима. Министерство культуры дало соответствующее разрешение. Горисполком определил место для памятника — городской сквер, что возле центральной аптеки. Наш земляк, скульптор Иван Миско разработал эскиз памятника. К сожалению, жители города эскиза не видели. Известно только, что государственный деятель и полководец Лев Сапега изображён вместе с анималистической фигурой — собакой. Нет денег для авторского выполнения рабочей модели — 2 тысячи долларов.

Мне представляется, что в этом вопросе должно быть больше гласности, открытости. Тогда и вопрос с финансированием решится быстрее. На сегодняшний же момент мы, горожане, оказались как бы в стороне, в неведении. А за кота в мешке никто не даст ни рубля.

К слову, 29 января этого года в Слониме пройдёт семинар по местному самоуправлению. Организаторы — Гродненский областной филиал "Фонда імя Льва Сапегі". На семинаре состоится дискуссия о роли Льва Сапеги для Слонима и обсуждение вопроса с памятником. Приглашаются все желающие. Место проведения и время начала семинара будет объявлено.

**Михась ВАРАНЕЦ**

## НАВІНЫ

### Калядоўшчыкі-дзеці

**Добры ўспамін пра сустрэчу Новага года па старому стылю пакінулі дзеці нашага двара (Савецкая вуліца).**

Вечарам, 13 студзеня, напярэдадні Новага года, яны сабраліся, каб калядаваць. Гэта было не проста хаджэнне з хаты ў хату, а цэлае міні-прадстаўленне. Усе дзеці былі ў касцюмах: Мядзведзь — Каця Жыліч, Кот і Малпачка — Саша Рабец і Віталік Іванішчаў, але найлепш сыгралі свае ролі — Чарцяняці — Сяргей Рабец і — Калядны казачкі — Наташа Болцік. Завадатарам артыстаў была Ірына Кулак, якая ведае шмат Калядных песень і прыгожа спявала іх разам з Аленай Маладзянавай, Вольгай Егаргінай і Вольгай Барысевіч.

Так і ішлі калядннікі ад сям'і да сям'і, ад хаты да хаты. І ўсюды людзі з радасцю і смехам адчынялі ім дзверы, не скупіліся на пахвалу і пачастункі.

**Святлана БОЛЦІК**

### Памяці Фрэдэрыка Шапэна

**У Слонімскай музычнай школе адбыўся творчы вечар, прысвечаны памяці славутага польскага кампазітара Фрэдэрыка Шапэна, 150-годдзе з дня смерці якога адзначаецца сёлета.**

З гэтае нагоды для слонімцаў і бацькоў навучэнцаў школы быў дадзены вялікі канцэрт, падчас якога гучалі творы кампазітара ў выкананні юных піяністак Аксаны Суцько, Ганны Пакаціла, Яны Кукліцкай і Марыны Каско.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

### Конкурс на лучшую белорусскую сельскую школу

**Республиканские общественные объединения "Общество белорусской школы" (ОБШ) и "Общество белорусского языка имени Франтишка Скорины" (ОБЯ) объявили конкурс на лучшую белорусскую сельскую школу.**

Конкурс проводится под девизом "Сохранение национального, культурного и исторического наследия" и продлится до конца января 2000 года. В нем могут принять участие все сельские школы страны, а также любые зарубежные учебно-воспитательные учреждения, в которых изучается белорусский язык, национальная история и культура.

**БелаПАН**

### Царква ў інтэрнаце

**Ужо больш як год, са снежня 1998 года, у чацвёртым інтэрнаце Слонімскай камвольна-прадзільнай фабрыкі, у пакоі для ўрачыстасцяў дзейнічае праваслаўны прыход у гонар іконы Маці Божай "Спаручніцы грэшных".**

Карэспандэнт "ГС" сустрэўся з настаяцелям прыхода айцом Янам і папрасіў расказаць аб дзейнасці абшчыны.

— Мэта стварэння нашага прыхода — навучанне слову Божаму. І не толькі дзяцей, але і дарослых. А паколькі школа павінна неадрыўна быць звязана з царквой, са святымі таямніцамі споведзі і прычашчэння, то ў нас павінна быць царква, — сказаў настаяцель айцец Ян. — Гэта добра, што зараз мы маем магчымасць збірацца тут, бо доўгі час не мелі ніякага памяшкання, збіраліся на кватэры. Сродкаў для будаўніцтва царквы пакуль што ў нас няма. Але царква — гэта не толькі будынак, а любое месца, дзе людзі збіраюцца на малебень. Так з благаславення ўладыкі Гурыя стварыўся і быў зарэгістраваны наш прыход. Зараз ён налічвае 20-25 пастаянных прыхаджан. З цягам часу, мяркую, у нас з'явіцца магчымасць пачаць будаўніцтва храма. А пакуль кожны чацвер і суботу, а таксама напярэдадні святаў наша абшчына збіраецца ў інтэрнаце. Дзверы нашай царквы адчынены для ўсіх праваслаўных вернікаў.

**Мікола КАНАНОВІЧ**

### Навамучанік зямлі Беларускай

**У канцы мінулага года Сінод Беларускай праваслаўнай царквы далучыў да ліку "мясцова шануемых" святых 23 "навамучанікі зямлі Беларускай". Сярод іх — архімандрыт Жыровіцкага манастыра Серафім Шахмуць.**

Серафім Шахмуць у Жыровіцкім манастыры жыў з 1922 года. У часы нямецкай акупацыі ён пакінуў манастыр, каб аднаўляць праваслаўныя храмы і царкоўнае жыццё у цэнтральнай і ўсходняй Беларусі. У верасні 1944 г. ён быў арыштаваны супрацоўнікамі НКУС. Следства працягвалася 10 месяцаў. Архімандрыта Серафіма катавалі, над ім здзекаваліся, але ён вытрымаў і не прызнаў фальшывых абвінавачванняў. У ліпені 1945 года яго прысудзілі да 5 гадоў канцлагераў. Архімандрыт Серафім неўзабаве памёр пры таямнічых абставінах у турме НКУС СССР...

Сінод Беларускай праваслаўнай царквы пастанавіў выдаць жыцця святых навамучанікаў, пісаць іконы для шанавання і паклонення, а таксама скласці тэксты богаслужэнняў.

**Алег ТАЧОНЫ**

### Канферэнцыя канстатавала

**У мінулым годзе сярэдняя зарплата ў мастоўскіх механізатараў і жывёлаводаў склала 13 мільёнаў недэнамініраваных рублёў, паляводаў — 7,5 мільёнаў.**

Гэтыя лічбы былі названы на пятай канферэнцыі прафсаюза працаўнікоў райаграпрамкомплекса, якая прайшла ў Мастах. У ёй прынялі ўдзел 53 дэлегаты ад 32 арганізацый раёна, у асноўным, кіраўнікі прафкамаў. На канферэнцыі таксама адзначалася, што на працягу 1999 года назіраўся спад аб'ёмаў вытворчасці ў гэтай галіне і знізіўся на 8% у суадносінах з 1998 годам, у тым ліку вытворчасць малака — на 6%, ялавічыны — на 10%, свініны — на 11%. Калгасы і саўгасы раёна забяспечаны механізатарамі толькі на 91%, даяркамі на 94% (болей чым 200 з іх — пенсіянеркі).

У галіне сельскай гаспадаркі ў раёне на ахову працы на аднаго працуючага на працягу года патрачана 1,5 млн. недэнамініраваных рублёў, магчыма гэта і прывяло да шасці няшчасных выпадкаў.

**Язэп ПАЛУБЯТКА**

### Кино переделали на филармонию

**В Гродно прекратит существование одноименный кинотеатр. Облисполком принял решение о передаче здания кинотеатра "Гродно" областной филармонии. В нем после реконструкции разместится концертный зал.**

Областная филармония была создана в январе 1987 года на базе гастрольно-концертного отделения Белгосфилармонии и до сих пор не имеет своего концертного зала. В областном центре останется пять кинотеатров.

**Ася КУНИЦКАЯ**

### Вучаніца стала студэнткай

**На абласной алімпіядзе па роднай мове ў горадзе Гродна вучаніца адзінаццатага класа Касцянёўскай сярэдняй школы Вольга Філон заняла трэцяе месца.**

Яна датэрмінова залічана студэнткай у Гродзенскі дзяржаўны універсітэт.

**Аляксей ЯКІМОВІЧ**

Газета Слонімская
Рэг. нумар 947 ад 24.03.97г.
Заснавальнік і рэдактар Віктар ВАЛАДАШЧУК

Адрас рэдакцыі: 231800, г.Слонім, вул. Я.Купалы, 5.
Тэлефоны:
рэдакцыі............ 2-14-39
............(017) 210-87-17
аддзел рэкламы 2-49-39
E-MAIL:gs@irex.minsk.by HTTP://gs.promedia.minsk.by

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні могуць не супадаць з поглядам рэдакцыі.

Рэдакцыя не вядзе перапіску з чытачамі і пакідае за сабою права рукапісы не рэцэнзаваць і не вяртаць.
Газета друкуецца на беларускай і рускай мовах.

Падпісана да друку 18 студзеня 2000г.
Час падпісання 20:00.
Надрукавана ў Слонімскай узбуйненай друкарні, г. Слонім, вул. Хлюпіна, 16.

Падпісныя індэксы:
64042 (індывідуальная)
63818 (ведамасная)
Наклад 8500 экз.
Заказ №178
© «Газета Слонімская» Спасылка на «ГС» абавязковая
Ⓚ Матэрыялы публікуюцца на правах рэкламы

Аляксандр Бабяк:

# "ТАКАЯ РОЗНАЯ ШВЕЙЦАРЫЯ..."



**Слонімец, студэнт 5-га курса Гродзенскага сельскагаспадарчага інстытута Аляксандр Бабяк летась быў у Швейцарыі, дзе на працягу шасці месяцаў праходзіў вытворчую практыку на ферме Ханса Колера. Карэспандэнт "ГС" сустрэўся з ім і папрасіў падзяліцца ўражаннямі.**

***— Аляксандр, як ты трапіў у Швейцарыю?***

— Швейцарская фірма "Аграімпульс" у нашым інстытуце сярод студэнтаў, якія вывучалі нямецкую мову, правяла адбор кандыдатаў для накіравання ў Швейцарыю. Мне пашанцавала, і я ў складзе групы з 17 студэнтаў розных навучальных устаноў рэспублікі паехаў у гэту краіну. Апынуўся я ў мястэчку Арланген, 50 км ад Берна (сталіца Швейцарыі) у фермерскай гаспадарцы Ханса Колера.

***— Твае першыя ўражанні?***

— Швейцарыя перш за ўсё ўразіла высокім узроўнем жыцця, чысцінёй і акуратнасцю. Тэхніка і сельгасмашыны стаяць калі не ў гаражы, то пад павеццю. Нідзе не бачыў механізма, які б знаходзіўся пад адкрытым небам. Навакольныя лясы хутчэй нагадваюць паркі і скверы. І што кідаецца ў вочы прыезджаму чалавеку, дык гэта тое, што нават у самы аддалены кутачак гэтай краіны ў любы час можна даехаць аўтобусам ці цягнікам.

***— Аляксандр, паколькі ты ўжо амаль аграном, раскажы падрабязней пра сельскую гаспадарку Швейцарыі.***

— Вядома, я ведаў, што еду ў Швейцарыю не адпачываць. Але тое, з чым мне прыйшлося сутыкнуцца ў першыя дні працы, пераўзышло ўсе мае чаканні. Першыя працоўныя дні здаліся мне годам. Працаваць прыходзілася па 10-12 гадзін у суткі з віламі ў руках на нарыхтоўцы сена ў гарах, дзе немагчыма было прымяніць тэхніку. Тады я і зразумеў, што фермер браў мяне да сябе не для таго, каб я штосьці звонку назіраў. Праўда, гаспадар, акрамя 3-разовага харчавання, плаціў мне за працу па 30 швейцарскіх франкаў у дзень (каля 20 даляраў). Для параўнання хачу сказаць, што студэнты з Германіі, Албаніі і Польшчы атрымлівалі за дзённую працу ўтрая больш, чым я. Пазней даведаўся, што швейцарцы не любяць рускіх, а для іх жыхары краін СНД — руския. За час вытворчай прыктыкі я згубіў больш як дзесяць кілаграмаў вагі.

***— Але, мусіць, ты не толькі махаў віламі...***

— Тэхнікі і сельгасінвентару ў іх хапае, але ўсё з "салідным стажам" — па 30-35 гадоў. І, тым не менш, працуюць яны выдатна. У Ханса Колера амерыканскі трактар маркі "Джон-Дзір" служыць ужо на працягу 35 гадоў. І ніводнай сур'ёзнай паломкі за ўвесь час. Новы ж трактар швейцарскай вытворчасці каштуе 40-45 тысяч даляраў. Найбольш фермеры купляюць амерыканскія і нямецкія трактары. Пра наш трактар МТЗ яны нават і не чулі.

***— Ці спрыяюць мясцовыя ўлады Швейцарыі развіццю фермерскіх гаспадарак?***

— Дзяржаўная палітыка Швейцарыі накіравана на ўсебаковую падтрымку фермераў. Амаль 75% фермерскіх гаспадарак краіны атрымліваюць вялікія датацыі на вытворчасць сельгаспрадукцыі, бо яна значна даражэйшая ў параўнанні з прадукцыяй суседніх краін: Італіі, Германіі, Аўстрыі. Мой гаспадар Ханс з кожнага гектара (а ўсяго 20 га зямлі) у год атрымлівае больш за 3,5 тысячы даляраў чыстага прыбытку. Зямля, за рэдкім выключэннем, знаходзіцца ў прыватнай уласнасці сялян. Выдаткоўваючы вялікія грошы на падтрымку земляробаў, дзяржава, у сваю чаргу, патрабуе ад сялян высакаякасную прадукцыю і строга сочыць за гэтым. Напрыклад, фермеру, які пастаўляе малако на сыраварні, забаронена карміць кароў сіласам, бо лічыцца, што сыр з такога малака будзе горшай якасці. Кантралёры пільна сочаць за тым, колькі і якія ўгнаенні ўносіць фермер на свае палеткі. Любога селяніна могуць пазбавіць ліцэнзіі на вытворчасць сельгаспрадукцыі толькі за тое, што плошча пашы на кожную карову не адпавядае навукова абгрунтаваным нормам альбо плошча кароўнікаў у разліку на кожную галаву меншая, чым патрабуе міністэрства сельскай гападаркі.

Што датычыць свіней, то іх у Швейцарыі вырошчваюць вагой не больш як 80 кг. Па-першае, швейцарцы вялікія гурманы і лічаць, што мяса са свінні большай вагі не такое спажыўнае. А па-другое, існуюць абгрунтаваныя даследванні, якія сцвярджаюць, што гадаваць жывёліну большай вагі эканамічна нявыгадна. Мяне вельмі ўразіла, калі я ўбачыў, што на фермерскай пашы з дапамогай электрапастуха пасвяць вялікі статак свіней. Мне патлумачылі, што ў Швейцарыі лічаць, што толькі пры такіх умовах утрымання жывёлін свініна будзе якаснай. Здзівіла, што на на тых участках пашы, дзе ўтрымліваюць свіней, штучна павялічваюць у глебе колькасць чарвякоў, з тым разлікам, каб свінні як мага больш рыліся ў зямлі. Лічыцца, што яны найхутчэй растуць у той час, калі рыюцца ў зямлі. З усмешкай успамінаў, што нашы сяляне наўмысна засаджваюць у лыч свінні дрот, каб яна не рылася ў хляве.

***— Якія сельгаскультуры вырошчваюцца на фермерскіх палетках?***

— У асноўным, сеюць тры-цікала, ячмень жыта і пшаніцу. Авёс амаль не вырошчваюць, бо лічыцца, што на мясцовых землях ён дае слабы ўраджай. Насенны фонд усіх без выключэння культур штогод абнаўляецца. Кожны селянін атрымлівае каталогі па вырошчванню зерневых культур і гадаванню хатняй жывёлы. Уразіла наступнае: клубні бульбы дыяметрам больш як 72 мм лічацца некандыцыйнымі і аддаюцца на корм жывёліне. А самымі высокаякаснымі лічацца клубні, паверхня якіх абсалютна гладкая і не мае бугаркоў і ямачак.

Швейцарскія фермеры разводзяць выключна племянную жывёлу. Карова, якая дае ў год менш, як 4,5 тысяч літраў малака, выбракоўваецца. У жывёлагадоўлі перавага аддаецца вырошчванню мясных парод жывёлы. І ў гэтай справе існуе пільны кантроль з боку дзяржавы: фермеры, якія жывуць на раўнінных землях, абавязаны займацца вытворчайсцю малака, а ў гарах — вытворчасцю мяса. Пры гэтым міністэрства сельскай гаспадаркі Швейцарыі заключае з фермерамі гадавыя кантракты на закуп строга пэўнай колькасці малака. Ні дзяржава, ні хто-небудзь іншы ні ў якім разе не мае права купіць прадукцыі больш, чым прадугледжана кантрактам. За ўсім вытворчым працэсам па дагляду жывёлы сочыць камп'ютэр. На шыі кожнай прымацаваны датчык, дзякуючы якому фермер у любы час можа даведацца пра стан здароўя кожнай жывёліны.

***— Аляксандр, ці давялося табе пазнаёміцца з умовамі жыцця і вучобы швейцарскіх студэнтаў?***

— Адукацыю ў Швейцарыі атрымаць вельмі цяжка, бо навучанне каштуе дорага. Менавіта таму навучэнцы каледжаў і студэнты ВНУ абавязкова спалучаюць вучобу з працай. Можа таму юнакі і дзяўчаты гэтай краіны так умеюць цаніць заробленыя грошы. І хоць для мяне было дзіўным бачыць, як бацька плоціць сынам за любую выкананую працу, а дачка аддае грошы сваёй маці за ўзятыя з курынага гнязда яйкі, то ў швейцарцаў гэта лічыцца нормай жыцця. Такая яна розная, Швейцарыя...

***— Аляксандр, якія твае бліжэйшыя жыццёвыя планы?***

— У траўні, пасля абароны дыплома, паеду па накіраванню працаваць галоўным аграномам у калгас імя Карла Маркса Сенненскага раёна Віцебскай вобласці.

**— Поспехаў табе!**

— Дзякуй!

**Гутарыў**
**Валянцін ЧУРЫЛА**

## Одни убытки

**Как отмечает Министерство статистики и анализа, 1999 год завершили с убытками 1223 хозяйства Беларуси, или каждое второе.**

В 1998 году их было 1170. По прогнозам, в Витебской области число убыточных хозяйств составит 416 (81% сельхозпредприятий), Могилевской - 270 (72%), Минской - 236 (47%), Гомельской -174 (43%), Брестской -77 (21%) и в Гродненской области - 50 хозяйств (17%).

По состоянию на 1 декабря 1999 года в госресурсы поступило 893,1 тысячи тонн зерна. Это на 11% меньше, чем было предусмотрено годовым заданием, и на 40% меньше, чем было заготовлено на 1 декабря 1998 года.

**БелаПАН**

# БЕЛОРУССКОЕ СЕЛО ВЫХОДИТ НА ОЧЕРЕДНОЙ ВИТОК РЕГРЕССА

Константин СКУРАТОВИЧ, журналист



Фота IREX/ProMedia

История человечества есть реальное, практическое движение социальной материи. Но иногда она же ставит и социальные эксперименты, результаты которых ломают все устоявшиеся представления и стереотипы.

Например, послевоенный раздел Германии сделал немцев, если судить по результатам хозяйственной деятельности, совершенно непохожими друг на друга. Сравните, например, западный народный автомобиль "Фольксваген" с его социалистическим аналогом "Вартбургом", и вы поймете, что восточные и западные немцы как "люди делающие" стали сильно отличаться друг от друга.

Аналогичные результаты демонстрируют северные и южные корейцы, континентальные китайцы и граждане Тайваня, советские армяне и представители армянской диаспоры.

### Получилось не совсем

С другой стороны, СССР, претендовавший на то, чтобы создать новую историческую общность — советский народ, при видимых успехах полной нивелировки национальных различий не добился. Поэтому есть все основания считать, что "человека делающего" портят конкретные социально-экономические условия, в которые он поставлен. Так, народы балтийских стран, вырвавшись из "советского плена", восстановили цивилизованные стандарты и демонстрируют завидные хозяйственные успехи. Здесь достигнут здоровый экономический рост, очень низкая инфляция (потребительские цены даже снижаются при росте реальных доходов), промышленное производство становится конкурентоспособным, внешняя торговля все больше переориентируется на Запад, а привычный для советского человека ограниченный ассортимент продтоваров исчез, будто его никогда и не было.

В Беларуси же, где алгоритм движения задан отрицанием цивилизованных стандартов, все остется по-прежнему и даже хуже. Поэтому народ занимается натуральным самоедством, отрицая собственную самодостаточность, а "товарищи ученые" подбрасывают в этот костер полешек: тут и приверженность коллективистским ценностям, и тысячелетнее влияние православия, религии менее деятельной и эгоцентричной, чем католицизм и, тем более, лютеранство, и славянское братство, и много чего еще.

Но над белорусами история экспериментировала никак не меньше, чем над другими народами. И делила этнос между различными державами, и ставила население различных регионов в разные социально-экономические условия, и много еще чего вытворяла, вплоть до опытов по тотальному уничтожению. В конце концов Богу, видимо, эти все происки надоели, и он наградил белорусов собственным суверенным государством.

Поэтому закономерно возник вопрос: что делать? В поисках ответа белорусские лидеры объездили белый свет и пришли к выводу: а ничего не надо делать. Везде опыт похуже, чем у нас, поэтому надо вернуться к прежним обстоятельствам, и все само собой наладится. А зря. Потому что, во-первых, далеко ездить не было нужды, во-вторых, существует и белорусский, но отличный от советского опыт, причем гораздо более плодотворный. Вот, например, в некоторых хозяйствах Смолевичского района в ноябре от одной коровы получали всего по два литра молока в день. А в крестьянских хозяйствах Белосточчины, где в основном проживают белорусы, корова не может дать менее 30 литров. В противном случае хозяин вместо прибыли получит одни убытки.

### Пан войт рассказал

Еще более интересные вещи на семинаре в Белостокском центре гражданского образования "Польша — Беларусь" рассказал войт гмины Городок Подляшского воеводства Евгений Семенюк, кстати, белорус. К тому же, среди более 60 тысяч жителей гмины большинство также являются белорусами. Гмина граничит с Беларусью, а конкретно, с Берестовицким районом. Вплоть до окончания второй мировой войны они представляли собой единый народнохозяйственный комплекс, а значительная часть берестовицких белорусов даже ездила на работу в Белосток, поскольку расстояние в 40 километров по железной дороге — это и не расстояние вовсе. После войны в связи с геополитическими играми Сталина Городок и Берестовица оказались по разные стороны границы, и хотя считалось, что Польша тоже строит социализм, именно здесь был опущен самый плотный "железный занавес".

(Продолжение в следующем номере)

# АВСТРАЛИЙСКАЯ ЗАРАЗА

**Не сегодня завтра белорусскую границу перейдет жутковатый варяжский гость — супергрипп под названием «Сидней-2000»**

Вирус «Сидней» посещает Швецию, Данию, Норвегию и Финляндию уже третий год подряд. Но столь катастрофические беды напасть эта приносит впервые.

Больницы переполнены, в Осло вновь поступающие лежат в коридорах. Дойдя до пика в Дании и Швеции, эпидемия захватила Норвегию и Финляндию, быстро приближаясь к России.

### Как распознать заразу?

Инфекция настолько прилипчива, что стопроцентно избежать встречи с ней можно, только пребывая в полной изоляции.

Протекает грипп очень тяжело, инкубационный период крайне короток — после контакта с «носителем» может пройти всего один день. Сначала начинают слезиться глаза, пощипывает в носу, потом приходят головная боль и горячка, на третий день обнаруживаются сухой кашель и боль во всем теле, то тут, то там - из-за этого, кстати, больные часто предполагают, что их настиг не грипп, а нечто совсем другое, связанное, например, с почками, печенью, суставами или желудком.

Очень важно захватить первые симптомы - температура поднимается классически, с сильным ознобом, от которого не спасают одеяла. У детей дело может дойти до судорог.

Более мирный вариант течения болезни характеризуется тяжестью в голове и во всем теле, неповоротливостью мыслей и движений, замедленностью восприятия, сонливостью и крайней раздражительностью. Даже в том случае, если лихорадит не слишком сильно, а температура держится в джентльменских простудных нормах, следует опасаться серьезных осложнений. По статистике, 60 процентов осложнений - это поражения легких, в 30 процентах случаев не выдерживает сердце, в оставшихся десяти - другие органы (чаще всего под удар попадают всевозможные хроники).

### Домашний скандал - не лучшее лекарство!

Как говорят скандинавы, инфлюэнца - дело семейное, а потому приготовьтесь к отчаянным домашним размолвкам на протяжении минимум месяца, пока не переболеют все по очереди.

Нынешний грипп - очень «скандальный», страдальцы капризничают, обижаются и обижают сами, а в моменты кризисов становятся буквально невыносимыми. Близкие наслушаются от них таких откровений, за которые выздоровевшим будет впоследствии стыдно. Поправляясь, буяны тоже «покажут характер», припоминая, как им было тяжело, одиноко и печально в худшие минуты, и огрызаясь в ответ на любую просьбу или требование. Окружающим предстоит стать настоящими сестрами (и братьями) милосердия, снося все нападки: гриппозники возмущаются абсолютно искренне, и переубеждать их в чем-то не имеет смысла. Худший вариант - это заболевший «начальник на телефоне», так что надо приготовиться и к крутым выговорам.

### Если вы все-таки заболели

- Немедленно вызывайте врача.
- Пейте максимум жидкости, лучше всего сдобренной витаминами. Полезно щелочное питье - минералки типа «Боржоми». Не пренебрегайте компотом из кураги, брусничным отваром и клюквенным киселем.
- Лежите. Скандинавы однозначно советуют прожить «неделю под одеялом». При этом умудряйтесь время от времени чистить зубы и хорошенько умываться. Меняйте полотенца и зубные щетки!
- Не будьте эгоистом: не обижайтесь, если не все члены семьи, а тем более сослуживцы, торчат у вашей постели. Наоборот, беспощадно гоните их от себя, спасая от инфекции.
- Не оставляйте заболевших детей одних, малыши могут потерять сознание.

# Грипп нас достанет В ФЕВРАЛЕ

**Вопреки опасениям, это будет не новый и вполне излечимый тип заболевания.**

Показанный по спутниковому телевидению сюжет о подкосившей чуть ли не всю Англию эпидемии гриппа немало напугал жителей нашей республики: мол, нас успокаивали, что ничего страшного в этом году не произойдет, а вон уже европейские страны под капельницами лежат! Чтобы выяснить, насколько реальна угроза заполнить больницы белорусам и хватит ли на всех капельниц, мы созвонились с Главным эпидемиологом Министерства здравоохранения РБ Анатолием Кожемякиным.

По его словам, еще до Нового года ВОЗ заявляла о локальных вспышках гриппа в Европе, однако речь идет о вирусе типа А (Н3Н2). Этот же тип вируса отмечен и в США, и в Китае. Данный вирус вовсе не является чем-то новым, он был характерен и для предыдущих эпидемий. Поэтому разговоры о каком-то новом вирусе, который неизвестно чем лечить, абсолютно беспочвенны. Вакцина, которая используется у нас для прививок (вакцинация проводилась в ноябре-декабре), защищает и от данного вируса.

Другое дело, предположил Анатолий Кожемякин, что предыдущая эпидемия в Англии, возможно, была отличной от нынешнего сиднейского гриппа.

Пока же ни в одном городе ни России, ни Беларуси эпидемии гриппа нет. И если в декабре в восемнадцати контрольных городах РБ отмечалось около 50 тысяч заболевших в неделю, в последние дни прошлого года эта цифра уменьшилась до 31830, а в первую неделю нынешнего - до 29628, так что у нас идет скорее снижение заболеваемости, связанное с уменьшением числа обращений к врачу в праздничные дни. Тем не менее хочешь мира - готовся к войне. А потому со дня на день лечебные учреждения республики будут переведены на 6-дневную рабочую неделю, ожидается усиление контроля в системе общепита, здравоохранения, в детских и торговых учреждениях. В аптечной сети создан запас лекарственных средств, необходимых для профилактики и лечения гриппа (более 60 наименований), которые появятся в продаже, как только будет объявлена эпидемия. Впрочем, те из них, что предназначены для профилактики, можно приобрести уже сейчас: это ремантадин, интерферон и оксолиновая мазь. Последние два препятствуют как раз развитию заболевания группы А и В, а ремантадин предотвращает размножение вируса гриппа А.

По прогнозам наших медиков, вирус достанет нас недели через две-три, а пик придется на вторую половину февраля. Предполагается, что он будет, как и в прошлом году, смешанным - типа А и В.

**Елена МИРОНОВА**




## ОТ НАСМОРКА И ПРОСТУДЫ

**У всех зимой часто случаются насморки и простуды, это известно. Попробуйте лечиться с помощью природных "лекарств". Они не такие горькие, как таблетки или микстуры, и проверены вековым народным опытом.**

❍ Свежий сок алоэ древовидного закапывайте в нос при остром насморке по 5 капель в обе ноздри через каждые 2-3 часа в течение 2-3 дней.

❍ Измельченные шишки ели (40 г) залейте стаканом воды, кипятите 30 минут, процедите и остудите. Отвар закапывать по 4-5 капель в обе ноздри при лечении гайморита или насморка. Температура отвара должна быть около 35 градусов.

❍ 3-4 раза в день закладывайте в нос на 10 минут кусочки ваты, смоченные свежим соком лука.

❍ Свежий сок свеклы закапывайте по 4-5 капель в каждую ноздрю 3-4 раза в день при сильном насморке. Вареным свекольным соком можно промывать нос при насморке с густыми выделениями.

❍ Одну чайную ложку измельченных цветов ромашки лекарственной настаивайте 30 минут в стакане кипятка. Промывайте этим настоем нос при воспалении слизистой оболочки. Горячие тампоны с настоем помогают при экземах и фурункулах.

❍ Одну чайную ложку почек березы белой заварите как чай в полстакане кипятка и пейте при легкой простуде. При простуде ешьте до 2-3 стаканов моченых ягод брусники.

❍ Одну десертную ложку высушенных соцветий или ягод бузины нужно настоять в стакане кипятка 20 минут. Пить по четверти стакана 3-4 раза в день за 15 минут до еды при простуде, гриппе.

❍ Растереть только что сваренный картофель. Вдыхать картофельный пар при простуде, для лечения верхних дыхательных путей.

❍ 3 чайных ложки измельченной травы клевера лугового настаивайте в стакане кипятка 20 минут. Пить по 3-4 раза в день при простуде.

❍ 2 столовые ложки сухих ягод малины нужно заварить в стакане кипятка. В начальной стадии простудного периода выпить в течение часа 2-3 стакана горячего малинового чая.

❍ Столовую ложку измельченных цветков липы настоять в стакане кипятка 20 минут. Пить горячий настой по полстакана 3-4 раза в день при простуде.

❍ Порошок перца красного (или натертой редьки - достаточное количество) прикладывай к коже вместо горчичников.

❍ Смешайте сок свеклы (40г), сок моркови (60г). Принимать по полстакана до еды или после еды 2-3 раза в день при простуде.

❍ Чайную ложку ягод черной смородины заварить в стакане воды 20-30 минут. Процедить. Принимать при простуде как потогонное средство 3-4 раза в день по столовой ложке.

❍ 20 г почек сосны обыкновенной настаивать в стакане кипящей воды полчаса. Настой применять для ингаляций дыхательных путей при простудных заболеваниях.

❍ Чайную ложку травы фиалки трехцветной залить стаканом воды комнатной температуры. Кипятить 15 минут, настаивать не менее 45 минут, процедить, принимать по одной столовой ложке 3-4 раза в день при острых респираторных заболеваниях.

❍ Если вы сильно промочили ноги — для профилактики простудных заболеваний нужно сделать припарки из хрена обыкновенного к стопам или голени, или попарить ноги в горячей воде с горчицей в течение 10-15 минут.

## ВЫРЕЖИ И СОХРАНИ

### Грипп настигает молниеносно. Что бы его обезвредить, у вас всего 3 - 5 часов

**Что советуют наши медики?**

Как считают в Институте вирусологии им. Ивановского, самый верный способ не заболеть гриппом - вовремя (хотя бы за 2 - 3 недели до эпидемии) сделать прививку. Несмотря на то, что эта болячка - самая древняя из дошедших до нашего времени, люди так и не придумали на «все сто» эффективного лекарства. Вирусы постоянно меняются, каждый новый мало похож на своих «предков». Но паниковать не стоит: спастись от гриппа (даже такого жестокого, как в этом году) поможет профилактика.

Вирус любит кислую среду и поселяется в верхних дыхательных путях. Чтоб его обезвредить, у вас есть 3-5 часов. Так что постарайтесь, приходя домой, каждый день полоскать горло раствором пищевой соды. Принимайте ванны с сосновым, пихтовым, эвкалиптовым экстрактом, закапывайте в нос на ночь ментоловое масло. Отправляя детей в школу и детсад, смазывайте им нос оксолиновой мазью или любым косточковым маслом (например, персиковым). Принимайте поливитамины и повышающие иммунитет средства (иммуномодуляторы). Очень полезно выпивать с утра по чайной ложке настойки элеутерококка.

Помните, что по-настоящему подавляющих вирус гриппа препаратов не так много, это: АРБИДОЛ (противопоказан страдающим тяжелыми заболеваниями — печени, почек и сердца), РЕМАНТАДИН (применяется для профилактики и лечения ранних стадий гриппа у взрослых и детей старше 7 лет), ДИБАЗОЛ (нежелателен для детей и гипотоников - сбивает давление). «Сердечникам» неплохо обзавестись КУРАНТИЛОМ для профилактики гриппа и укрепления сердечно-сосудистой системы.

Если беда не прошла стороной и вы заболели, то не сбивайте высокую температуру аспирином (резкое снижение температуры только ослабит организм и активизирует вирусы). Лучше сделайте уксусное обтирание (1 столовая ложка уксуса на поллитра кипяченой воды). Если очень неприятные ощущения в носоглотке и голова раскалывается, попринимайте РИБОМУНИЛ.

**Вирус, как вампир, боится чеснока и святой воды**

Ничего лучшего, чем чеснок, человечество для профилактики и борьбы с гриппом еще не придумало. Ешьте по 3 зубчика свежего чеснока в день, если заболели - увеличьте дозу вдвое.

В деревнях издавна готовят настои малиновых веточек на святой воде, принесенной из церкви (можно заменить ее водой, где постояла серебряная ложка).

Прекрасно дает отпор болячке такая смесь: соедините свежее яйцо, одну столовую ложку сахара, щепотку питьевой соды, по одной чайной ложке меда и сливочного масла. Все хорошенько перемешать, залить стаканом горячего кипяченого молока и пить по стакану три раза в день.

А вот проверенный рецепт противогриппозного чая: поровну кладут кору ивы, цветки ромашки, плоды шиповника, липовый цвет, зверобой. Чайную ложку сбора залить стаканом кипятка, настоять 10 минут, процедить настой и отжать растительную массу. Принимать по полстакана три раза в день за 15 минут до еды.

